


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

18 мая 2001 года

№ 20 (317)
Выходзіць па пятніцах

TV плюс

## Навіны рэгіёна

### Мядзел цяпер з гербам



**МЯДЗЕЛ.** Горад, нарэшце, займеў свой герб. Напрыканцы красавіка яго зарэгістравалі ў Дзяржаўнай геральдычнай службе.

Распрацоўкай займаліся ў Мінску. Ёсць меркаванне, што ў сярэднявеччы ў Мядзела ўжо быў герб, але ў архівах нашай краіны звестак пра гэта, на жаль, не захавалася.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

### Урал Латыпаў не прыехаў

**МАЛАДЗЕЧНА.** Сарваўся прыезд у горад Дзяржсакратара Савета Бяспекі Беларусі **Урала Латыпава.**

Планавалася, што 15 мая мінскі чыноўнік правядзе прыём грамадзян па асабістых пытаннях. Але адзін з памочнікаў Латыпава патэлефанаваў напярэдадні ў гарвыканком і паведаміў, што прыезд дзяржсакратара адмяняецца. Прычына – занятасць па больш важных пытаннях. Ці паўторыць Урал Латыпаў спробу свайго візіту, у выканкоме не ведаюць.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

### Міжнародная перамога


Фота з сямейнага альбома ПАДВЕРБНЫХ.

**МАЛАДЗЕЧНА.** 10-гадовая спявачка **Віка Падвербная** перамагла ў міжнародным конкурсе "Сонечныя праменьчыкі", які праходзіў на мінулым тыдні ў Даўгаўпілсе.

Сярод 80 удзельнікаў (3 узроставыя катэгорыі) Віка была адзіная з Беларусі. Перамогу і прыз – веласіпед – ёй прынеслі песні "Мая зямля" і "Бродягадождик".

Паспяховае выступленне дае магчымасць спявачцы прыехаць у Латвію на наступны год, калі будуць удзельнічаць пераможцы трох папярэдніх конкурсаў. Віка адзначае добрую арганізацыю фестывалю. Яна гаворыць, што набыла ў Латвіі шмат сяброў.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

### Рыцары прыедуць 9–10 чэрвеня

**МЯДЗЕЛ.** 9–10 чэрвеня ў райцэнтры пройдзе першы нацыянальны рыцарскі турнір «Меч Гедыміна». Пра гэта ўдзельнікам абвясціў электронны бюлетэнь «Сярэднявечны інфарматар».

Мяркуецца, што на Мядзельскім Рыцарскім Рысталішчы збяруцца прадстаўнікі абсалютнай большасці беларускіх клубаў з усіх рэгіёнаў краіны. Яны вызначаць лепшых на сённяшні дзень беларускіх байцоў па сярэднявечным фехтаванні. Апрача турнірнабаявой часткі будуць сярэднявечная свецкая музыка, фальклор.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

### Свята сям'і ў Валожыне

**ВАЛОЖЫН.** У аўторак у Доме культуры міжнародная дабрачынная арганізацыя "Надзея-экспрэс" арганізавала свята, прысвечанае міжнароднаму Дню сям'і (адзначаецца 15 мая).

У ДК запрасілі цяжарных жанчын, іх мужоў, а таксама маладых маці – усяго каля 200 чалавек. Яны паглядзелі канцэрт, а потым паўдзельнічалі ў навучальных семінарах.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

### Адмена электрычак



18 мая адпраўленнем у Мінск 13-41, прыбыццём з Мінска 14-44

### Надвор'е на выхадныя

**Субота, 19 мая**

**Мінск**
12 – 13°С (уначы)
15 – 21°С (удзень)



**Вільня**
10°С (уначы)
13°С (удзень)



**Нядзеля, 20 мая**

**Мінск**
10 – 11°С (уначы)
15 – 17°С (удзень)



**Вільня**
8°С (уначы)
17°С (удзень)



# «Міс Вясна-2001»

**МАЛАДЗЕЧНА. Даша Івашкевіч перамагла ў конкурсе «Міс Вясна-2001», які правялі Цэнтр пазашкольнай работы (ЦПР) і сярэдняя агульнаадукацыйная школа мастацтваў (САШМ). 9 прыгажунь з сярэдніх школ і пазашкольных устаноў горада зладзілі сапраўднае шоу. Сярод дзяўчат 11–12 год лепшымі сталі:**

Віцэ-міс Вясна-2001 – **Анастасія Бажко** (ЦПР, СШ №7)

"Міс Зачараванне" – **Яніна Субычава** (ЦПР, СШ №6)

"Міс Грацыя" – **Кацярына Кароль** (СШ №9)

"Міс Непаўторнасць" – **Вольга Гіль** (СШ №3)

**Дзяўчаты 13–14 год:**

"Міс Вясна-2001" – **Вікторыя Іванчык** (СШ №1)

"Віцэ-міс Вясна-2001" – **Алена Васільева** (СШ №5)

"Міс Зачараванне" – **Марыяна Андрушчанка** (СШ №2)

"Міс Фотамадэль" – **Таццяна Якубеня** (СШ №12)

Прыгажуні атрымалі шмат прызоў: магнітолы, скургалантарэю (дамскія сумачкі), парфумерыю, сувеніры з керамікі, мяккія цацкі, нават свяцільню і спартыўны касцюм.

Дапамаглі ў афармленні конкурсу мастакі **Міхаіл** і **Ігар Лазары**, **Сяргей** і **Дзмітрый Пятровы**, народны майстар па саломцы **Ірына Драмлюк**.

Перад прысутнымі выступілі студыя бальнага танца "Грацыя", узорны танцавальны калектыў "Сонечны праменьчык", танцавальны калектыў САШМ "Наш стыль".

**Галіна ІВАНЬКІНА.**


Фота Яўгена СТЭЛЬМАХА

**Даша Івашкевіч – пераможца V Маладзечанскага конкурсу "Міс Вясна-2001" ва ўзросце 11–12 год. Яна стала і ўладальніцай галоўнага прыза – пуцёўкі ў Чэхію (куды паедзе ў верасні).**

## Экспрэс-апытанне маладзечанцаў

# Піянерыя вачыма розных пакаленняў

**Мы спыталіся пра стаўленне да піянерскай арганізацыі ў прадстаўнікоў двух пакаленняў: падлеткаў і дарослых.**

### У падлеткаў мы спыталіся: Хто такія піянеры?



**Іра Мохарава, трэцякурсніца палітэхнікума:**

– Піянеркай не была, і так добра жылося. Пра іх ведаю, што яны дапамагалі старэйшым. Але можна дапамагаць і не быць піянерам. А цяпер, калі хто хоча, няхай уступаў бы ў піянеры. Не думаю, што яны замянілі б.



**Коля Кунчукін, сямікласнік СШ №8:**

– Былі такія пры савецкай уладзе. Па летніках ездзілі, састарэлым дапамагалі. Не шкадую, што не піянер, бо не люблю гальштукі. Ды і што ў летніках рабіць, я лепш на роліках пакатаюся.



**Саша Шабалтас, сямікласнік СШ №8:**

– Быў піянерам два гады таму. Сам у піянеры ўступіў, хацеў дарослым дапамагаць. Але ў шостым класе развалілася ўсё. Цяпер патрэбныя скаўты. Яны ўмеюць выжыць у складанай сітуацыі, падарожнічаюць па свеце. А піянеры – гэта была ідэалогія.



**Федзя Гацко, васьмікласнік СШ №6:**

– Дзеці, якіх выхоўвалі ў духу камунізма. Мне пашанцавала, што я не быў піянерам, бо не люблю гальштукаў і строгіх правілаў.

**Заканчэнне на 4-й стар.**

■ ГІСТОРЫЯ

# Козел-Паклеўскія – нашчадкі славы

Шляхецкі род Козел-Паклеўскіх займае значнае месца ў гісторыі Вілейшчыны. 5 братоў з гэтай адной сям'і ўзялі актыўны ўдзел у нацыянальна-вызваленчым паўстанні 1863–64 гадах у Беларусі, Літве і Польшчы пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага. Дарэчы, іх бацька Ян Козел-Паклеўскі, ліберальны памешчык, з'яўляўся ганаровым апекуном школ Мінскай губерні. Старэйшы яго сын, таксама Ян, палкоўнік, бліжэйшы паплечнік кіраўніка паўстання, член Літоўскага правінцыяльнага камітэта. Пасля паражэння эмігрыраваў за мяжу, вярнуўся на радзіму ў 1872 годзе і на 10 год быў сасланы ў Сярэднюю Азію.

Вінцэнт – ваенны паўстанцкі начальнік Вілейскага павета, арганізаваў атрад колькасцю звыш за 200 чалавек. Загінуў у баі 16 (28) мая 1863 года і пахаваны ў брацкай магіле (каля 70 паўстанцаў) каля вёскі Уладыкі Вілейскага раёна. У гэтым баі загінуў і малодшы брат – Міхаіл, прах якога таксама знаходзіцца там. Зянон і Юзаф за ўдзел у паўстанні былі сасланы салдатамі ў Арэнбург і Омск.

Яшчэ адзін прадстаўнік з гэтага роду – Альфонс Козел-Паклеўскі – быў супрацоўнікам генерал-губернатара Заходняй Сібіры П. Гарчакова, з'яўляўся відным прадпрымальнікам і дапамагаў сасланым туды ўдзельнікам паўстання.

У пачатку XX стагоддзя нашчадкі Козел-Паклеўскіх – браты Юзаф, Вінцэнт і Тадэвуш – разам са сваёй маці Анэтай вярнуліся на радзіму.



Фота з архіва былога настаўніка Людвінаўскай СШ Б. РУДАКА.

Браты Козел-Паклеўскія (у цэнтры ў зімовых шапках) пасля ўдалага палявання на ваўка. 20-я – 30-я гады мінулага стагоддзя.

Старэйшаму Юзафу дасталася вёска Сэрвач, Вінцэнту – Людвінова і Кастыкі, Тадэвушу – Жары. Браты заснавалі звераферму, на базе якой і сёння дзейнічае буйнейшы ў Беларусі зверасаўгас.

Юзаф быў прагрэсіўных поглядаў, з разуменнем ставіўся да праблем бедных. Але і яго спасціг трагічны лёс. Увосень 1939 года ён быў арыштаваны органамі НКУС і расстраляны ў красавіку-маі 1940 года сярод іншых 4,4 тысячы польскіх афіцэраў і іншых дзеячаў у Катынскім лясным масіве непадалёку ад Смаленска.

**Анатоль РОГАЧ, Вілейка.**



Юзаф Козел-Паклеўскі, уладальнік зверафермы ў Сэрвачы, у добрым настроі. 20-я – 30-я гады мінулага стагоддзя.

## Памяці Міколы Ермаловіча

МАЛАДЗЕЧНА. Учора ўвечары ў цэнтральнай гарадской бібліятэцы прайшла вечарына, прысвечаная 80-годдзю з дня нараджэння пісьменніка-гісторыка Міколы Ермаловіча, які загінуў летась.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

## Маладзечанца ўшанавалі палякі

**МАЛАДЗЕЧНА. На чацвертым усяпольскім конкурсе кларнетыстаў, які праходзіў на мінулым тыдні ў польскім горадзе Пётркуў Трыбунальскі, маладзечанец Сяргей Кухаронак заахвочаны граматай.**

Сяргей быў адзіны беларус на фестывалі. Ён спаборнічаў у малодшай узроставай групе (да 15 год), дзе ўдзельнічалі 59 чалавек. Сяргея Кухаронка журы адзначыла ганаровай граматай.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

## Фестываль дружбы школ

**МАЛАДЗЕЧНА. З 11 па 13 мая ў Выверскай СШ прайшоў 35-ы штогадовы фестываль дружбы школ.**

У госці да беларусаў прыехалі школьнікі з Расіі, Літвы, Латвіі і Эстоніі – усяго каля 150 чалавек.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

## Актыўнае вывучэнне мовы

**АШМЯНЫ. Амаль 20 настаўнікаў польскай мовы бралі ўдзел у канферэнцыі "Актыўныя метады навучання польскай мове". Арганізавала яе аб'яднанне "Польска мацеж школьна на Беларусі".**

Падчас метадычнай канферэнцыі перад настаўнікамі са Смаргоні, Астраўца і Ашмянаў выступалі прафесары з асяродка ўдасканалення настаўнікаў з Седльцэ (Польшча), спецыяльна запрошаныя на гэтую канферэнцыю. Напрыклад, прафесар пані **Левандоўская** праводзіла практычныя заняткі, гульні.

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**

## 41-ы гуманітарны канвой

**ВАЛОЖЫН. 29 выхаванцаў Івянецкай дзіцячай школы-інтэрната атрымалі запрашэнні на летняе аздараўленне ў Германію.**

Іх разам з гуманітарнай дапамогай прывезла ў Івянец дэлегацыя з чатырнаццаці чалавек з нямецкага горада Орстхофен. Сярод падарункаў – 2 такарныя станкі, 4 электраматоры, спальныя ложкі, 5 інвалідных калясак.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

## Дэлегацыя з Эслінгена

**МАЛАДЗЕЧНА. У суботу ў горад прыехала нямецкая дэлегацыя з горада Эслінгена.**

У яе склад увайшлі 19 педагогаў і 14 навучэнцаў са школы імя Фрыдрыха Эберта.

Мэта прыезду – знаёмства з нашай краінай.

Запланаваныя і экскурсіі па рэгіёне: немцы наведаюць Чысць (ААТ "Забудова"), Вязынку (музей Янкі Купалы) і мястэчка Свір у Мядзельскім раёне (ПТВ-207).

**Юрый КАРПІЦКІ.**

## «Рэгіянальная газета» гасцюе ў «Лілеі»



Фота Віталя ПАЎЛОЎСКАГА.

Карэспандэнт "РГ" Юрый Карпіцкі, актывісты вілейскай маладзёжнай газеты "Лілея" Маргарыта Шалкоўская, Вераніка Гайчук, Аляксей Сюдак, Міхась Кулеш, Валодзя Шляпо абмяркоўваюць свае планы.

У мінулую пятніцу ў гасцях у вілейскай скаўцка-маладзёжнай газеты "Лілея" былі галоўны рэдактар "РГ" **Аляксандр Манцэвіч** і карэспандэнт **Юрый Карпіцкі**. Абедзве газеты звязваюць сталыя кантакты, нягледзячы на немалую розніцу між выданнямі – розныя тыражы, тэрыторыя распаўсюджвання, аўдыторыя, перыядычнасць і накіраванасць газет. Але нягледзячы на гэта, абмен думкамі, ідэямі, тэмамі карысны і для прафесійнай газеты, як "Рэгіянальная", і для аматарскай маладзёжнай "Лілеі".

"Лілейцы" збіраюцца на свае лятучкі два разы на тыдзень. Абмяркоўваюць тэмы бліжэйшага нумара, дзеляцца навінамі. На гэты раз на сустрэчы ішоў таксама абмен думкамі між работнікамі "РГ" і "Лілеі". Як вынік, нарадзіліся ідэі сумесных журналісцкіх акцый, пра якія неўзабаве даведаюцца чытачы абодвух выданняў.

**Мікола ГАЙДУК.**

## Выстаўка захапленняў

**ВІЛЕЙКА. У мінулыя выхадныя ў гарадской бібліятэцы прайшла трэцяя агульнагарадская выстаўка "Свет нашых захапленняў".**

73 экспанаты падзялілі на 3 намінацыі: кактусы, пакаёвыя расліны і кампазіцыі, вырабы з прыродных матэрыялаў. Па-за конкурсам была і фларыстыка.

За два дні выстаўку наведала каля тысячы гараджан. Пераможцамі па намінацыях сталі пенсіянерка **Валянціна Хвядзевіч**, работніца электрасетак **Людміла Рогач** і прадпрымальнік **Яўген Яцыновіч**.

У падарункі яны атрымалі хрустальныя вазы і сервізы.

У "дадатак" работнікі бібліятэкі наладзілі кніжную выстаўку пра кветкі і сумесна са станцыяй юнага натураліста правадзілі для ўсіх, хто жадае, кансультацыі па вырошчванні кветак, адказвалі на пытанні.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

## Рэспубліканская алімпіяда па музыцы

**МАЛАДЗЕЧНА. З аўторка па чацвер у памяшканні музычнага вучылішча прайшла рэспубліканская тэарэтычная алімпіяда.**

З прадстаўнікоў рэгіёна ў алімпіядзе браў удзел вучань маладзечанскай музычнай школы баяніст **Павел Грынкевіч**.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

■ АНОНС

## Абласны фестываль духавікоў

**ВІЛЕЙКА. У суботу і нядзелю ў горадзе пройдзе абласны фестываль духавой музыкі.**

У суботу ў гарадскім парку выступяць духавы аркестр з Жодзіна і вілейскі аркестр школы мастацтваў. Пачатак танцавальнай праграмы а 18-й гадзіне.

У нядзелю: 13-00 – шэсце па вуліцах горада ўсіх 19 калектываў-канкурсантаў; 14-00–16-40 – плошча Леніна, конкурсная праграма.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

■ ІМЯНІНЫ

**18 мая**
**Праваслаўныя:** Ірыны, Якава.
**Каталіцкія:** Аляксандры.

**19 мая**
**Праваслаўныя:** Дзяніса, Іёва.
**Каталіцкія:** Мікалая, Пятра.

**20 мая**
**Праваслаўныя:** Антона, Івана.
**Каталіцкія:** Бернардына.

**21 мая**
**Праваслаўныя:** Арсена, Пімена.
**Каталіцкія:** Віктара, Цімафея.

**22 мая**
**Праваслаўныя:** Ісая, Мікалая.
**Каталіцкія:** Рыты, Юліі.

**23 мая**
**Праваслаўныя:** Сімана.
**Каталіцкія:** Міхала, Яна.

**24 мая**
**Праваслаўныя:** Іосіфа, Кірылы.
**Каталіцкія:** Зузанны, Іаанны.

## Кінатэатр «Радзіма»

**Вялікая зала, май**

18 – 20 **"Прыгоды Рокі і Булвінкля"** (прэм'ера), ЗША, анімацыйна-гульнявая камедыя 15-00

**"Я мару пра Афрыку"**, ЗША, драма (на відэасістэме) 17-00, 21-00

**"Эпіцэнтр"**, баявік-катастрофа (на відэасістэме) 19-00

21 – 27 **"Чаго жадаюць жанчыны"**, ЗША, рамант. камедыя, 2 серыі 15-00, 19-10, 21-30

**"Смяротны захват"**, ЗША, баявік (на відэасістэме) 17-30

**Для дзяцей**

20 – **"Сцюарт Літл"** 13-00

■ ДНІ



18 мая – **Міжнародны дзень музеяў.**
1906 – **заснаванне ў Пецярбургу беларускай выдавецкай суполкі "Загляне сонца і ў наша аконца".**
19 мая – **Дзень фізічнай культуры і спорту.**
**80 год з дня нараджэння А. Сахарава** (1921–1989), вучонага-фізіка, грамадскага дзеяча, лаўрэата Нобелеўскай прэміі міру.
24 мая – **Дзень славянскага пісьменства і культуры.**

# Прадаўцы падзялілі першае месца

**МЯДЗЕЛ. Прайшоў конкурс сярод прадаўцоў на званне «Лепшы на прафесіі». Трэба ім было падрыхтаваць візітную картку, справіцца з практычнымі ды тэарытычнымі заданнямі, адрэкламаваць тавар.**

Першае месца давялося падзяліць паміж **Аксанай Грузд** з мядзельскага гастранома і **Ірынай Федаровіч**, якая працуе ў свірскім універмагу.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

■ АХОВА ПРАЦЫ

# Няшчасцяў становіцца менш

**МАЛАДЗЕЧНА. Першая палова года адзначаецца зніжэннем колькасці няшчасных выпадкаў на вытворчасці. За I квартал, прыкладам, іх было ў Маладзечанскім раёне 9 (год таму 12). Усе не адносяцца да катэгорыі смяротных і цяжкіх.**

Для параўнання: у I квартале 2000 года па Маладзечанскім раёне адбылося 12 няшчасных выпадкаў на вытворчасці, у тым ліку, 1 групавы ў калгасе "Усход", адзін на Радашковіцкім керамічным заводзе, якія адносяцца да катэгорыі цяжкіх.

Расследаваны схаваны няшчасны выпадак з цяжкім зыходам, які адбыўся 7 кастрычніка 2000 года ў СПК "Бярэзіна". У гэтай жа гаспадарцы летась адбыліся яшчэ 2 няшчасныя выпадкі: з даяркай і з камбайнерам. Яны да цяперашняга часу не расследаваныя, нягледзячы на патрабаванні інспекцыі працы, выкладзеныя ў прадпісанні дзяржінспектара. Не ўзятае ў гарадской бальніцы заключэнне аб цяжкасці выпадкаў. Акты адпаведнай (Н-1) формы не складзеныя.

Кіраўнік гаспадаркі аштрафаваны на 5700 рублёў.

**Вера СУМІНА, дзяржінспектар працы.**



Фота Яўгена СТЭЛЬМАХА.

**На калгасным рынку ідуць падрыхтоўчыя работы да ўвядзення ў эксплуатацыю рыбнага павільёна (справа). Гандаль тымчасам не спыняецца.**

# На рынку будзе рыбны павільён

**МАЛАДЗЕЧНА. Праз некалькі тыдняў "сальныя" павільёны на калгасным рынку будуць працаваць згодна з санітарнымі нормамі. Увойдзе ў строй і рыбны павільён.**

У двух павільёнах салам гандлявалі з восені. Але там не было вады, каналізацыі, электрычнасці. Да вясны санітарныя службы дазволілі гандляваць і так.

У маі, нарэшце, пачалі выпраўляць недахопы.

– Хутка ўжо ўвядзем у эксплуатацыю ў поўным аб'ёме павільёны для продажу сала і рыбы, – спадзяецца дырэктар рынку **Аляксей Увараў**.

Рыбны павільён з'явіўся на рынку амаль у адзін час з "сальнымі". Але ён не працаваў, бо не было ніякіх умоў для гандлю.

Падчас будаўнічых работ гандаль у "сальных" павільёнах не спыняецца.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

## Курсы валют НБ РБ

| | 10 мая | 17 мая |
|---|---|---|
| Долар | 1341,00 руб. | 1345,00 руб. |
| Нямецкая марка | 608,37 руб. | 607,95 руб. |
| Літ | 335,32 руб. | 336,22 руб. |
| Расійскі рубель | 46,30 руб. | 46,35 руб. |
| Злоты | 339,71 руб. | 336,71 руб. |
| ЕЎРА | 1189,87 руб. | 1189,05 руб. |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 1370 – 1380 руб. | 1370 – 1390 руб. |

## Маладзечна. Цэны ў сераду на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 8.05 | 16.05 |
|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі, 1 кг | 2180 | 2180 |
| Кілбаса с/вялен., 1 кг | 7760 | 7620 |
| Сасіскі, 1 кг | 2450 | 2450 |
| Селядзец, 1 кг | 1550 | 1550 |
| Рыс, 1 кг | 500 | 520 |
| Грэчка, 1 кг | 480 | 460 |
| Цукар, 1 кг | 565 | 580 |
| Алей, 1 л | 730 | 770 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 720 | 680 |
| Маянэз, 200 г | 250 | 260 |
| Кава "Пеле", 100 г | 1500 | 1500 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 450 | 430 |
| Соус там. «Мінскі», 0,5 л | 370 | 370 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 320 | 320 |
| Капуста, 1 кг | 350 | 400 |
| Лімоны, 1 кг | 1350 | 1400 |
| Апельсіны, 1 кг | 1100 | 1100 |
| **Сялянскія прадукты** | | |
| Смятана, 1 л | 1200 | 1200 |
| Масла, 1 кг | 2000 | 2000 |
| Тварог, 1 кг | 1000 | 900 |
| Малако, 1,5 л | 400 | 400 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1000 | 900 |
| Бульба, вялікае вядро | 600 | 700 |
| Морква, 1 кг | 450 | 700 |
| Яблыкі, 1 кг | 580 | 700 |
| Цыбуля зялёная, 1 пучок | 200 | 200 |
| Радыс, 1 пучок | 250 | 200 |
| Кроп, 1 пучок | 200 | 100 |

# Завалім Літву цэглай?

**СМАРГОНЬ. 92,7% абсталявання на ААТ "Смаргоньсілікатабетон" выслужыла свой тэрмін і дасягнула зносу ў 100%.**

Аб'ём вытворчасці на заводзе склаў за 3 месяцы 86% ад леташняга. Рэзка знізілася пастаўка газасілікатабетону ў Расію, бо там ён неканкурэнтаздольны па цане. На 22% знізілася выкарыстоўванне вытворчых магутнасцяў на прадпрыемстве. Сёлета загрузка магутнасцяў складае 41%.

Райвыканком прадпрыемству параіў актывізаваць работу ў аддзеле маркетынгу і знешнеэканамічнай дзейнасці. Бо, маўляў, смаргонскую прадукцыю гатовыя купляць усе прыбалтыйскія рэспублікі. Іхняя ўласная даражэйшая за беларускую.

**Павел МАКЛЮК.**

# Засыпаліся крупамі

**СМАРГОНЬ. На складзе камбікормавага завода назапасілася больш за 400 тон аўсяных круп.**

Кілаграм смаргонскіх круп каштуе 323 рублі за кілаграм, у той час, як аналагічная расійская прадукцыя – 240.

Прадпрыемства марудна прадае і камбікармы з-за вялікай цаны. Як часовае выйсце, завод выкарыстоўвае кармы на ўласных свінагадоўчых ферме і комплексе.

**Павел МАКЛЮК.**

■ НАШЫ ГРОШЫ

# Працуем болей, але атрымліваем менш

Апублікаваныя нядаўна ў цэнтральных газетах афіцыйныя дадзеныя пра даходы і выдаткі насельніцтва аказаліся даволі цікавыя, таму спяшаемся падзяліцца з чытачамі сваімі каментарыямі. Аказваецца, што на зарплату ў нашай краіне жыве ўсяго палова насельніцтва, якое атрымлівае даходы. А кожны пяты, нагул, жыве на пералічэнні з бюджэту. Так, сума даходаў нашых грамадзян за месяц склала 664 мільярды рублёў, з іх на долю заработнай платы прыходзіцца толькі 329 мільярдаў, на пенсіі, дапамогі і стыпендыі – 133, даходы ад прадпрымальніцкай дзейнасці складаюць 188 мільярдаў і даходы ад уласнасці (працэнты па дэпазітах і ўкладах, ад здачы ў арэнду сваёй маёмасці, ад продажу валюты і каштоўных папер) – 14 мільярдаў. Аналіз паказвае, што доля зарплаты і сацыяльных трансфертаў з бюджэту пастаянна расце, а доля даходаў ад прадпрымальніцкай дзейнасці, на жаль, падае. Мы працягваем, у асноўным, заставацца работнікамі па найме, якія прадаюць сваю рабочую сілу, пра якіх больш за 150 год таму пісаў вядомы Маркс. Можна таксама канстатаваць падзенне актыўнасці насельніцтва ў атрыманні дадатковых даходаў за кошт прадпрымальніцтва і дадатковай занятасці ў сферы бізнесу. Людзі проста вымушаныя дацягваць да пенсіі ці цягнуць лямку на дзяржпрадпрыемстве – тым жа вілейскім заводзе "Зеніт" або маладзечанскім заводзе "Спадарожнік", – каб атрымаць інтэрнат ці кватэру ці яшчэ якія льготы. Таму дзяржаўны сектар і працягвае ўтрымліваць вялікую долю ў агульнай структуры вытворчасці.

У структуры даходаў грамадзян прыкметна таксама і павышэнне долі сацыяльных выплат, што сведчыць пра нізкую эфектыўнасць сацыяльна арыентаванай эканомікі. Затое дзяржава і ўлада атрымліваюць падтрымку самага вернага свайго электарату – пенсіянераў і сялян. Доля выплат на пенсіі вырасце яшчэ больш у сувязі з ростам пенсій ў маі месяцы. А абяцанае з 1 чэрвеня павышэнне мінімальнай зарплаты прывядзе і да росту пенсійных выплат, што на руку ўладам у перадвыбарныя месяцы.

Вельмі нізкімі аказваюцца выплаты па ўласнасці, што знаходзіцца ў руках прыватных асоб. Дывідэнды, якія выплачваюць розныя акцыянерныя таварыствы па акцыях па выніках работы за год, аказаліся настолькі мізэрныя, што гаварыць пра нашых грамадзян, як пра ўласнікаў, робіцца проста сорамна. Па некаторых выплатах даходзіць да абсурду – падлягае выплаце аднаму акцыянеру 139 рублёў, а камісійныя будуць большыя за саму выплату. Лепш плацяць акцыянерныя таварыствы цукраперапрацоўчай прамысловасці і мэбельшчыкі. Гэта сведчыць і зніжэнне да 40% долі занятых у прыватным сектары, у Чэхіі яна перавышае 80%. Таму мы і па цяперашні дзень імкнемся да запаветных 100 долараў зарплаты кожнаму, што сёння для звычайнага чэшскага грамадзяніна выглядае амаль здзекам.

Аналіз нашых выдаткаў дазваляе адзначыць наступнае: агульная сума патрачаных ўсімі намі грошай складае 687 мільярдаў рублёў, з якіх на купляне тавараў і аплату паслуг пайшло 502 мільярды, на аплату падаткаў і ўзносаў – 62, выдаткі на назапашванне зберажэнняў, на ўзносы ва ўклады і дэпазіты, на куплю валюты і каштоўных папер склалі аж каля 123 мільярдаў. Пры гэтым мы ўсё менш трацім на купляне тавараў, асабліва ў дзяржаўным і цэнтралізаваным гандлі (ад гэтага і рост запасаў тавараў на складах у магазінах ды і на саміх прадпрыемствах). Прычыны дзве: павышэнне цэн да заваблачных для нашых спажыўцоў вышынь і рост долі рэалізацыі тавараў на базарах і рынках.

Нам усім даводзіцца больш працаваць, але атрымліваем за гэта, чамусьці, усё менш.

**Міхась АЛЕКСАНДРОВІЧ.**

■ КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА

# Нож у якасці аргумента

**АСТРАВЕЦ. Разбойнаму нападу падверглася сям'я з Кямелішак. Каля шасці раніцы гаспадар адчыніў дзверы невядомым, а тыя ў якасці аргументаў паказалі нож і абрэз.**

Затым збілі гаспадара, яго жонку і непаўналетнюю дачку. Забралі ў доме 1300 долараў ЗША, залатыя ўпрыгожванні і зніклі.

Міліцыя ўвяла спецыяльны план "Перахват", але вынікаў ён не даў. Ідзе следства.

# Даўгі трэба аддаваць

**АСТРАВЕЦ. Днямі праваахоўныя органы ўзбудзілі крымінальную справу ў дачыненні да вадзіцеля з Літвы.**

Літовец праштрафіўся тым, што амаль два гады таму ўзяў у астраўчаніна 1200 долараў, а аддаць забыўся. Цяпер яму пра доўг нагадалі. Напэўна, літоўцу давядзецца развітацца не толькі з грашыма.

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**

